● ПАДКАЗКІ АГАРОДНІКУ

**Вось і ўсё, летні сезон пачаўся. Праўда, "поле" пакуль на вокнах. Але неўзабаве пікіроўка. Месца пад культурнымі раслінамі раздасца ўшыркі. І чалавек будзе быццам прывязаны да сваіх кволых раслінак. То павярні іх другім бокам, то падлі вады, то падрыхлі, то зрабі яшчэ нешта неабходнае.**

# Падумаем пра расаду

У N5 за 3 лютага ў газеце пад такім загалоўкам была змешчана парада, ў якой ішла гаворка аб глебе для вырошчвання расады. Сёння пойдзе размова аб тэрмінах сяўбы і вырошчванні расады.

**Сельдэрэю** лепшым днём сяўбы насення ў глебу будзе сёлета **29 лютага**. Добрыя дні таксама **25-28 лютага**. Лепшымі днямі будуць яшчэ **7-15 сакавіка.**

Добрыя дні для пасеву **памідораў 25 лютага ўвесь дзень і да 12 гадзін зранку 26 лютага**, а лепшымі днямі будуць вечар **9 сакавіка і 10-13 сакавіка.**

**Перац салодкі** добра пасеяць **26 лютага вечарам ці 27-28 лютага**. Калі ж па нейкіх прычынах не паспееце гэтага зрабіць — можна сеяць **7-15 сакавіка.**

Нельга пазніцца з пікіроўкай. Лепш за ўсё яе праводзіць у "маладым" узросце, калі толькі абазначыліся ці выкінуліся першыя сапраўдныя лісточкі. Любое спазненне вядзе да млявасці перасаджаных раслін, нават да хваробы. А адставанне ў развіцці здарыцца абавязкова.

Стварыць умовы, каб расады не выцягвалася, была дужай абавязкова з выдатна развітой каранёвай сістэмай, можна толькі на вялікіх паўднёвых вокнах, выкарыстоўваючы глебу, якая вельмі рыхлая і ўтрымлівае дастатковую колькасць угнаенняў (асабліва фосфарна-азотнай групы). Яшчэ трэба своечасовыя палівы і цяпло. Перцы надзвычай баяцца скразнякоў і, вядома ж, халадоў. Таму іх неабходна пераносіць на ноч у глыб пакоя, дзе плюсавая тэмпература ў межах 14-19 градусаў. Памідоры быццам бы ўстойлівыя да халадоў, але іх мэтазгодна хаваць, калі тэмпература паніжаецца да +7 градусаў. Раніцой палівы толькі цёплай вадою (+20—+25 градусаў). Вядома, падваконнік, дзе яны месяцца, павінен быць як мага даўжэй асвечаны сонцам.

У вясковых хатах умовы, на жаль, вельмі неспрыяльныя: халодна, малыя вокны, глеба — бы тая сухая ці падсохшая гліна. Як не круціце, а абысціся без парнічкоў, якія трэба будаваць на паўднёвым баку хат ці пабудоў, нельга. Плёнка пажадана двайная. Пры гэтым верхні край не датыкаецца да ніжэйшага. У падобных умовах лепш захоўваецца цяпло. Абавязковыя градуснікі. Калі тэмпература ўнутры парнічка ніжэй сямі градусаў, расаду не выносіць. Лепш за ўсё, калі слупок застывае на адзнацы +15 градусаў і вышэй. Развіццё пойдзе нармальна.

У раннім узросце расліны пакутуюць ад няхваткі фасфару. На гэта указваюць лісцінкі і нават сцяблiны. Паглядзіце на святло: ці не фіялетавага яны колеру? Калі так, трэба брацца за фосфарную падкормку. Робіцца ўсё наступным чынам. У паўлітровы шкляны слоік усыпаецца пяць-дзесяць грамаў суперфасфату і дзве лыжкі прасеянага попелу. Заліваецца вельмі цёплай вадой (да +40-60 градусаў). На працягу двух дзён настойваецца, сістэматычна перамешваецца, затым зліваецца з ападку.

Для падкормкі бяром толькі 1000 міліграмаў атрыманай вадкасці на літр вады, зноў перамешваем і паліваем пад корань. Да гатовага раствору можна дадаць і 1 грам мачавіны ці 2 грамы селітры. Раз на тыдзень "фарбаваць" марганцоўкай (0,5 г на літр вады).

Паліваць расаду лепш раніцой. Ваду браць снегавую ці дажджавую. Можна калодзежную і крынічную. Вадаправодную ж прагрэць да 70 градусаў і даць пастаяць двое сутак. Асцярожна зліваць, імкнучыся не зачапіць мутнаваты і вельмі непатрэбны раслінам рыжы асадак на сценках і донцы.

Выдатны вынік дае каравяк. Але каб той быў без пахаў, яго настойваюць у вадзе да чатырох-шасці сутак (адносіны вады і карвяку 10:1). Зноў зліваць з асадку і паліваць. Пасля абавязкова падсыпаць зямлю, закрываючы гной, які будзе зверху. Такіх падкормак у расадны перыяд павінна быць не менш трох.

За месяц вырошчвання расады пад памідоры падсыпаць свежую зямлю двойчы ці тройчы. Перад маем шкляначкі поўныя! Перцы мэтазгодна не заглыбляць і пад іх падсыпаць зямлю адзін раз. Яны не вельмі здатныя да ўтварэння новых каранёў.

● ВАША ЗДАРОЎЕ

# ЗОНА ЗЛОСЦІ

Чаму ў адных дамах вы адчуваеце сябе ўтульна і добра, іншыя ж цісняць і прыгнятаюць, і вы стараецеся як мага хутчэй іх пакінуць, а потым яшчэ доўга адчуваеце дзіўную стомленасць і недамаганне?

У любым доме пануе свая непаўторная энергетыка, прычым пазітыўныя і негатыўныя зоны ў жыллі стварае сам чалавек. Так, любімае крэсла, у якім вы прывыклі адпачываць і расслабляцца, становіцца для вас "астраўком" дабрабыту. А вось куток на кухні, дзе ідзе пастаянная лаянка з мужам, ракавіна, заўсёды поўная нямытага посуду, таз у ваннай, куды тыднямі складваецца брудная бялізна, або куток у прыхожай з гарой нячышчанага абутку ствараюць вакол сябе зоны злосці. Як вы адносіцеся да дому, так і ён стане адносіцца да вас.

Вызначыць "добрыя" і "дрэнныя" зоны не так ужо і цяжка. Там, дзе энергетыка пазітыўная, марудней высыхае разлітая вада, доўга не вянуць зрэзаныя кветкі, заўсёды роўна і высока свеціць полымя свечкі.

У месцах скаплення негатыўнай энергетыкі кінутая на падлогу сярэбраная манета звініць глуха або амаль не звініць, хутчэй скісае малако, а масла растае на вачах.

Старайцеся не дабаўляць свайму жыллю адмоўнай энергіі. Ніколі не прыносьце ў дом свой дрэнны настрой, пакіньце благія думкі за парогам — навакольныя ж прадметы ўсё гэта тут жа ўбіраюць, асабліва люстэрка. Нездарма пасля смерці чалавека іх прынята завешваць. Люстэрка трэба хоць бы раз у тыдзень мыць халоднай вадой.

Другім пасля люстэрка "накапляльнікам злосці" лічыцца падушка. Жанчыны, не плачце па начах у падушку, інакш яна кожную ноч пачне "дзяліцца" з вамі накопленай дрэннай энергетыкай! Слёзы лепш выціраць хустачкай, а потым яе або мыць, або проста выкідваць. Можна і спаліць разам з усёй злосцю, але, спальваючы, не глядзіце на полымя, інакш вы несвядома адновіце адмоўныя вобразы, і яны адродзяцца з новай сілай.

На верхнім адзенні і абутку вы таксама прыносіце адмоўную інфармацыю з вуліцы. Прыходзячы дамоў, мыйце абутак, а паліто, плашчы, курткі вешайце ў драўляную сценавую шафу. Дрэва не толькі затрымлівае негатыўную энергетыку, але і падсілкоўвае пазітыўнай.

Ніколі не накоплівайце і не захоўвайце падоўгу на антрэсолях, у кладоўках, шафах старыя рэчы: ваша жыццё стала іншым, а яны па-ранейшаму цягнуць у мінулае. У доме павінны "жыць" толькі тыя прадметы, якія вам па душы, тады неспрыяльных зон стане значна менш.

Энергетыку дома можна мяняць. Напрыклад, шкоднае уздзеянне геапатагенных зон цудоўна нейтралізуе бурштын.

Злосць з вашага дома можа "забраць" любы высакародны метал, хай гэта будзе залаты пярсцёнак у шкатулцы або сярэбраны падсвечнік на стале. Іх толькі трэба перыядычна мыць.

Пакаёвые расліны, таксама моцна ўплываюць на энергаструктуру дома. Гаючымі здольнасцямі валодаюць японскі клён, герань, мох, традэсканцыя. Калі лісце непатрабавальнай традэсканцыі раптам пажаўцелі — значыць у кватэры з'явілася крыніца цёмных сіл. Цудоўна збірае энергетычны бруд герань, робячы паветра ў пакоі свежым і духмяным. Фікус дапамагае ва ўмацаванні сям'і і садзейнічае зачаццю.

Але ёсць расліны, небяспечныя для чалавека. Скажам, модная цяпер буйная паўзучая ліяна манстэра літаральна "п'е" нашы сілы, галоўным чынам па начах.

Акрамя раслін, цудоўна карэкціруе энергетыку ў кватэры звычайная вада. У мяркуемыя зоны пастаўце на ноч шклянку з вадой, а раніцай вынесіце яе за парог і выліце так, каб вада разлілася па зямлі тонкім слоем і па магчымасці хутчэй выпарылася.

Дарэчы, калі ў вашым доме пануюць мір і каханне, а душы поўныя чыстых задум, ніякія злыя сілы тут не выжывуць.

**Таццяна АНДРЭЕВА.**



***Добры настрой.***
**Фота І.ЛАПО.**

***Цікава!***

## Водка в Россию пришла... из Италии.

Имеются точные данные о том, когда водка стала известна в России. В 1429 году (намного раньше, чем в Европу прибыл табак) водку привезли в Россию из Генуи. Правда, как только в России ознакомились с ее действием, ввоз "крепкого напитка" был сразу же запрещен. Изредка им пользовались с лечебной целью, причем дозы, которые назначали тогдашние врачи, никогда не превышали полложки. Только через столетие, при Иване Грозном, по его распоряжению был открыт в Москве первый "царев кабак". Правда, грозный царь быстро спохватился и сурово запретил пить водку всем, за исключением своих опричников. Лишь при Петре I, в 1716 году, в России была введена свобода винокурения (производства водки).

● КАЛЯНДАР АГАРОДНІКА

Каляндар агародніка на сакавік 2000 года
Недапушчальныя для пасеву, пасадкі дні 2, 3, 4, 6, 30
Пасеў, пікіроўка расады, пасадка агародніны:

| Культура | чыслы месяца (дні) | |
|---|---|---|
| | лепшыя | добрыя |
| Баклажаны | — | 7-15, 20, 22в-24 |
| Цыбуля на пяро | 7-11р, 14, 15 | 1, 11в-13, 20, 22в-29 |
| Гуркі | 14, 15 | 5, 7-13, 22в-24 |
| Перац | — | 7-15, 25-27р |
| Пятрушка ліставая | 9в-11р | 1, 5, 7-9р, 11в-15, 20, 27в-29 |
| Памідоры | 7-9р, 14, 15 | 9в-13, 20, 22в-24 |
| Салата ліставая | 7-11р | 5,11в-15, 20 |
| Сельдэрэй карнявы | 1, 5, 27в-29 | 7-15, 21-27р, 30, 31 |
| Кроп | 11в-13, 18-20 | 1, 5, 7-11р, 14, 15, 21, 22р, 27в-29 |

Заўвага: літара "р" у календары азначае —раніца, ад 0 да 12 гадзін, "в" — вечар — ад 12 да 24 гадзін.

***Падказаў вопыт***

## Клей на сто выпадкаў

Не выкідвайце дробныя абрэзкі лінолеуму без асновы з матэрыі — з іх атрымліваецца універсальны, на ўсе выпадкі клей. Засыпце іх у слоік, заліце ацэтонам да поўнага пакрыцця, шчыльна зачыніце накрыўкай. Праз 12-15 гадзін клей гатовы, ім можна склейваць метал, драўніну, тканіну лямец, фарфор, кераміку... Калі дабавіць (1:2 па вазе) здрабнёны і прасеяны мел, то атрымаецца цудоўная шпаклёўка для замазвання шчылін на сценах і ў падлозе. А змешванне клею з мелам у суадносінах 1:1 дае масціку, якая вельмі трывала трымае абліцовачную кафельную плітку на сцяне, пакрытай алейнай фарбай.

## Анекдоты для дам

Две дамы злословят:

— Знаешь, Светка скоро стукнет тридцать, а ей столько не дашь, правда?

— Да, по внешнему виду ей запросто можно сбросить лет десять, а по умственному и все пятнадцать.

* * *

— Две молоденькие дамочки беседуют:

— Дорогая моя, — говорит одна, —мне как-то не по себе. Кажется муж опять начинает подозревать, что у меня есть любовник.

— Ну и как же ты выкручиваешься?

— Очень просто, как только у него появляются подозрения, я тут же меняю любовника.

* * *

Жена учит собаку стоять на задних лапах. Муж выражает сомнение:

— Дорогая, все равно ты успеха не добьешься.

— Будь спокоен. И ты вначале не слушался.

* * *

— Дорогая, а почему ты делаешь фрикадельки разного размера?

— Но ведь ты же просил хоть как-то разнообразить наше питание.

* * *

— Ты говоришь, как идиотка! — Кричит муж.

— Я говорю так, чтобы ты понял...

● КУТОК ГАСПАДЫНІ

### БУЛЬОН С МАКАРОННЫМИ ИЗДЕЛИЯМИ



Вермишель, лапшу, ушки, звездочки опустить на 2-3 минуты в кипящую воду, после чего переложить в кипящий прозрачный бульон (мясной или куриный) и доваривать до готовности в течение 12-15 минут. Мучные изделия отваривают в воде для сохранения прозрачности бульона.

*На 2 литра бульона — 100-125 г мучных изделий.*

### СУП МОЛОЧНЫЙ С ПЕРЛОВОЙ КРУПОЙ

Перловую крупу тщательно промыть и залить холодной водой. Спустя 2 часа воду слить, крупу залить горячей водой и дать ей прокипеть в течение 10 минут. Затем крупу откинуть на дуршлаг, дать стечь воде, переложить в кастрюлю с кипящим молоком и варить при слабом кипении в течение 40-50 минут. Добавив соль, сахар и масло, подать на стол.

*На 1 л молока — 4-5 ст. ложек перловой крупы, 1 ст. ложку масла и 1 чайную ложку сахару.*

### СУП МОЛОЧНЫЙ С ОВСЯНЫМИ ХЛОПЬЯМИ

В кипящее молоко всыпать овсяные хлопья, добавить по вкусу соль, сахар и варить 20-25 минут. При подаче на стол положить в суп масло.

*На 1 л масла — 1 стакан овсяных хлопьев, 1 чайная ложка сахара и 1 ст. ложка масла.*


**ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ**

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 23 лютага 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 2651 экз. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 8.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**